Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай

№ 5—(45). Вільня, 2 лютага 1928 году. Год II.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
| --- | --- | --- |
| Wilno (Вільня), Мастовая вул. № 9. кв 3. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за $1/2$ — 65, за $1/4$—35, за $1/8$—20 зл. За міліметравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Чаму мы заклікаем галасаваць за № 1.

**Мы не выстаўляем свайго ўласнага сьпіску пры выбарах у Сойм,** бо зьяўляемся маладою арганізацыяй, паўстаўшай толькі тры месяцы таму назад і не для адных толькі выбараў, як пра нас казалі і кажуць, а для таго, каб пракладаць трудны шлях для сваіх ідэяў.

Мы толькі пачынаем сваё палітычнае жыцьцё, бо прадстаўляем тую пераломную групу беларускага народу, тых першых вястуноў, якія кажуць, што для дасягненьня сваіх сьвятых ідэалаў **беларусы павінны злучыцца ў адну моцную нацыянальную арганізацыю, а не разьбівацца і грызьціся паміж сабою,** як гэта робіцца сягоньня.

Мы ня пускаемся на дэмагогію, ня ловім людзей на абяцанкі, ня гонімся за мінутнымі эфэктамі, ня ідзём на авантуры, нікога не ашукваем і ня хочам ашукваць сябе. Прапаведуючы нацыянальнае беларускае адзінства і братэрства народаў нашага краю, мы ведаем, як у сучасны момант агульнае дэмаралізацыі і спэкуляцыі беларускім рухам, трудна працаваць у абраным намі кірунку. Мы пераконваем і будзем пераконваць не дэмагогіяй, а жыцьцём і сілаю свае ідэі.

І калі сягоньня, у час выбарнае гарачкі, кожная беларуская група заклікаець галасаваць за сябе, наша маладая Беларуская Радыкальная Народная Партыя таксама застанавілася над пытаньнем:

**За каго-ж галасаваць? Каму выказаць сваю сымпатыю і пашану?**

Ні адна з істнуючых беларускіх партыяў, ні адзін з паданых беларускіх сьпіскаў нас не задавольніў і ня мог задавольніць, бо ўсе яны маюць незаслужаныя прэтэнзіі гаварыць за ўвесь беларускі народ, бо ўсе яны вядуць дзікую, нясумленную барацьбу паміж сабою, труцяць народную душу і дыскрэдытуюць імя беларуса перад усім сьветам.

Сярод усяе аравы беларускіх „актыўных" палітыкаў, мы ня бачым а ніводнае асобы, на якой мог-бы застанавіцца беларускі выбаршчык і сказаць, вось гэта правадыр народу. Усе яны прадаюцца направа і налева, усе яны гоняцца за грашыма, хочуць кар'еры, хочуць быць панамі.

За іх мы галасаваць ня можам, ня хочам і ня будзем. Ня будзем галасаваць ні за ультра-левых грамадаўцаў, якія запрадалі сваё сумленьне і беларускую ідэю адвечнаму ворагу Беларусі — Маскве і хочуць выслужыцца перад ёю.

Ня будзем галасаваць за іх таксама і таму, што па віне іх бяз сэнсу і карысьці гніюць у польскіх і савецкіх турмах нашыя сяляне.

Ня будзем галасаваць таксама і за Паўлюкевіча, які фальшыва аб'явіў свой Выбарчы Камітэт „агульна-беларускім і народным", а ў запраўднасьці прадстаўляе невялічкую групу людзей.

За блёк нацыянальных меншасьцяў га-

ласаваць ня будзем таму, што ён запрадаўся немцам і жыдоўскім багацеям, а за групу Янкі Станкевіча ня будзем галасаваць таму, што яго „Галоўны Выбарчы Камітэт беларускага сялянства і работніцтва“—ёсьць фікцыяй, бо сваю дзейнасьць Янка Станкевіч, Астроўская і іншыя пачалі толькі падчас выбараў і аблічча гэтае групы ні нам, ні беларускаму выбаршчыку няведама.

За каго-ж тады галасаваць?

І вось мы пастанавілі, ня ідучы самастойна на выбары, — запратэставаць проціў дзікае беларускае сваркі, запратэставаць проціў дэзарганізатараў і кар‘ерыстых і калі няма і ня можа быць створаны адзіны беларускі сьпісак, як знак адзінства і непадзельнасьці беларускага народу, то ніводнага голасу ня даць дэзарганізатарам, а дэманстратыўна выказаць сваю сымпатыю і пашану Маршалку Пілсудскаму і галасаваць за сьпісак № 1.

Падаючы свае галасы за № 1, за супрацоўніцтва з Урадам Маршалка Пілсудскага, **мы застаёмся беларусамі, не адмаўляемся ні ад сваіх ідэалаў, ні ад свае праграмы, ні ад сваіх справядлівых дамаганьняў.**

Глыбока пераконаны, што наш голас ня будзе адзінокім. Глыбока пераконаны, што найбольш разумная, найбольш паважная частка беларускага сялянства, тысячы сялянаў, якім абрыдлі байкі „агітатараў“ і ашуканцаў зробіць так сама, як зрабілі і мы і аддасьць свае галасы за сьпісак № 1.

Сяляне Беларусы! Змусьце розных кар‘ерыстых спыніць сваю агідную працу.

Запратэстуйце разам з намі проціў беларускае сваркі, проціў прадажнасьці большасьці нашых дзеячоў. Скажэце, што вы за дэзарганізатараў і банкрутоў, за кар‘ерыстых галасаваць ня хочаце і ня будзеце, а дэманструеце і галасуеце за **сьпісак № 1.**

## З савецкага жыцьця.

Прыехаўшая нядаўна з савецкага „раю“ доктар-жанчына Міссан - Казіцкая, падае ў газэту „Kurjer Wileński“ цікаўны артыкул, у якім паміж іншым апісвае жудасныя старонкі савецкага жыцьця, аб якім маўчыць савецкая прэса, старанна хаваючы іх прад вокам чужынцаў. Вось, паміж іншым, што яна апісвае аб гэным жыцьці.

„Фізычна дужы і моральна здаровы расейскі народ паволі выраджаецца пад панаваньнем саветаў.

І ніякая сіла ня можа паўстрымаць гэнага працэсу, пячаць каторага відаць на твары кожнага дзіцяці. Гэта сьцьвярджаюць і дактары і соцыялёгі і юрыстыя. Дзеці ў СССР залішне рана перастаюць быць дзеткамі, залішне рана перад іх чыстымі душамі адчыняецца ўвесь бруд жыцьця. „У месяцы лютым 1925 году - піша Казіцкая, я атрымала пасаду кіраўніцы „Дому Дзіцяці“ і прабыла на ёй да траўня 1926 г. Ня гледзячы на ўсю маю любоў да дзяцей, ня гледзячы на ўсё маё стараньне як-небудзь палепшыць страшэнна цяжкія варункі жыцьця дзяцей у „Доме Дзіцяці“, я нічога не магла зрабіць у гэным напрамку.

Абсолютны недахоп адзежы і бялізны, ложкі не засланыя, вельмі часта нават без сяньнікоў. Халодныя, зусім неапаленыя пакоі. Дзеці нячэсаныя, ў падзёртых вопратках, з худымі тварыкамі. Дзяўчаты і хлопцы гадуюцца разам, толькі сьпяць паасобку. Пры мне адну дзяўчынку 13-ёх год бярэменную перавязьлі ў радзільны прытулак.

Мэдыцынскі агляд даў жудасныя рэзультаты: амаль усе бяз вынятку дзеці былі заражаны вэнэрычнымі хваробамі. Праступнасьць паміж

## Трэцяя Расея і Беларусы.

Бальшавізм у яго сучаснай форме не зьяўляецца тым, чым быў у 1919—1921 гадох. Тэорэтычны камунізм, які выводзіўся з соцыялізму і меў даць зямлю і волю працоўным масам Расеі, а за ёю і ўсяго сьвету, быў закінуты ўжо ў 1922 годзе з багаслаўленьня Ільіча, калі быў уведзены НЭП (Новая Эканамічная Палітыка). Гэтая новая сграграма, якая ня маець нічога супольнага з соцыялізмам, замест лепшых варункаў жыцьця работніку, прымацавала яго да фабрыкі, дзе ён мусіць працаваць за мізэрную аплату бяз права забастоўкі, бо кідаць працу ў мэтах здабыцьця сабе лепшых варункаў працы і большай аплаты за работу ў бальшавікоў нельга. А кінуўшы зусім фабрыку, работнік ня можа спадзявацца знайсьці работу ў іншым месцы, бо камуністыя зьнішчылі ўвесь свой промысел і фабрыкі. У Расеі цяпер больш безработных, чымся ў другой, буржуазнай дзяржаве.

Усе справаздачы бальшавіцкіх офіцыяльных дадзеных аб промысьле, ўсе дасьледы жыцьця работнікаў у Расеі зусім выразна паказваюць, што тыя работнікі, якія маюць працу, могуць за зробленыя грошы толькі чуць-чуць пражыць, а ў ніякім выпадку ня здолеюць прыадзецца.

Работнікам цяпер куды горш жывецца ў Расеі, дзе нібы істнуе „работніцкая“ ўлада, чымся перад вайною, калі панавалі цары.

Сяляне таксама абгалелі зусім.—Цэны на збожжа нармуюцца у Расеі ўрадам, як гэта было ў Беларусі падчас нямецкай окупацыі. Прыватнага гандлю збожжам няма, дык сяляне змушаны прадаваць збожжа па гэтых „урадовых“ цэнах да казённых магазынаў і савецкіх крамаў. А там мала што плацяць страшэнна нізкую цану грашыма, але найчасьцей заместа грошай выдаюць асыгнаты пазычкі, якую бярэ савецкі ўрад ад народу, каб залатаць недахоп бюджэту. Бо заграніца грошай бальшавіком пазычыць ня хоча, бо ня верыць, што, пазычыўшы, аддадуць.

Сяляне не вязуць збожжа на продаж, бо за атрыманыя за яго грошы ня могуць купіць патрэбных фабрычных вырабаў, якія ізноў удваяўтрая даражэйшыя, чымся былі перад вайною, бо зьнішчаны расейскі промысел ня здолее рабіць танна, ён знаходзіцца ў руках дзяржавы і кіру-

дзетак — таксама вялікая: пакражы, бойкі, нават забойствы былі зьявішчам звычайным у „Доме Дзіцяці“. Галодных, халодных і паўголых дзяцей штодня ганялі ў гэтак званы Ленінскі Клюб“ на гімнастыку і „палітнавуку“. Клюб, у памешканьні каторага было 5 градусаў марозу, проста забіваў і так усьцяж жывучых у холадзе дзетак. Гэтыя лекцыі выглядалі проста з а зьдзек над беднымі нешчасьлівымі ахвярамі. Нираз назначаліся камісіі, каторыя прызнавалі патрэбу рэформаў і зьмянаў у „Доме Дзетак“, але ўсё канчалася на зацемках у газэтах.

Кашмар жыцьця ў „Доме Дзіцяці“, тварыў малалетніх праступнікаў і прастытутак.

У мове Саветаў гэта называецца „апекай над навароджанымі і моладзьдзю“.

Далей аўтор выясьняе, якія чыньнікі спрыяюць росту працэсу выраджэньня ў СССР.

„Чыньнікаў гэных тры: францы, гарэлка і непраглядная бедната.

Францы ў розных стадыях развою перайшоўшыя ў спадчыне ад бацькоў ці набытыя, агортваюць дзяцей у школах І-ай і ІІ-ой ступені, усе прытулкі і студэнцкія бурсы. Францы заглядаюць у сямейнае жыцьцё і не шчадзяць нават малых дзетак.

Хвароба гэная, паводлуг урадовай савецкай статыстыкі ахоплівае амаль 50 процантаў насельніцтва СССР. Усюды расклеены плякаты, у каторых расказана, як берагчыся ад гэнай заразы, але ўсё гэта не дае ніякага рэзультату.

Само жыцьцё людзей у СССР, іх распуста, брак сьведамасьці, а перад усім прыклад людзей, стаячых ля кіруна ўлады—вось галоўныя прычыны „няўсьпешнай“ барацьбы з гэтым страшным злом.

Дзеці ў СССР ува ўсіх „Дзіцячых Дамох“, а часам і ў родных хатах пачынаюць палавое жыцьцё на 12-14 годзе і адначасна пачынаюць хварэць вэнэрычнымі хваробамі. Дзяўчат, якія да фактычнага выхаду замуж заставаліся-б у дзявочым стане, ў СССР — няма“.

„Другім чыньнікам выраджэньня зьяўляецца алькаголь. Алькаголь—гэта біч народу ў СССР.

Няма кутка, дзе-б ня было гарэлкі, няма сям'і, дзе-б ня пілі яе ня толькі жанчыны, але і дзеці. Урад СССР гэтак стараецца пашырыць гандаль гарэлкай, што ніякія лекцыі аб шкодзе алькаголю для здароўя людзей, ня маюць ніякага ўплыву і зусім ня могуць зьменшыць п'янства.

Гарэлку прадаюць на ўсіх вечарынках, ладжаных у школах, ува ўсіх клюбабх, у „Дамох адпачынку“. Без гарэлкі жыцьцё у СССР было-б немагчымым... Толькі гарэлка дае магчымасьць народу забыць свае крыўды...“

Весткі з СССР аб барацьбе з алькаголізмам— гэта адна мана. Барацьба з алькаголізмам не ляжыць у інтарэсах савецкага ўраду, які мае з гандлю гарэлкай вялікія даходы.

Трэці чыньнік выраджэньня — гэта непраглядная беднасьць, якая зьяўляецца верным таварышом усіх жыхароў СССР, за выняткам камуністых, іх жанок і гэтак званых „адказных работнікаў“. Сыстэматычнае недаяданьне, аграмадныя фізычныя высілкі, бязупынная напружаннасьць нэрваў — усё гэта страшэнна нішчыць сілы і выклікае старасьць без пары. Заработкі ад 40 да 60 рублёў у месяц, а кошт сякога-такога пражыцьця 100—150 рубл. у месяц. Толькі камуністыя жывуць у дастатку, зарабляючы ад 200 да 400 рублёў у месяц“...

Вось некалькі абразкоў, вырваных з жыцьця ў савецкім „раі“.

Ня хочацца верыць усяму гэтаму, ня хочацца думаць, што сапраўды гэтулькі зла і гора магутнаму калісь і шматмільённаму народу ў такі кароткі час магла прынясьці кучка людзей, пануючых цяпер у СССР. Чытаючы гэныя радкі, не адзін можа падумае, што артыкул гэны — гэта не рэчаіснасьць, але твор фантазіі чалавека, які не адну цяжкую хвіліну пражыў у СССР.

Але чытаючы савецкія газэты, у каторых, дзякуючы поўнай адсутнасьці ў Саветах свабоды друку, пісакі іх ня могуць расказаць усяе праўды, ...

---

юць ім урадоўцы, найчасьцей неспэцыялістыя і незацікаўленыя, каб вырабляць добра і танна.

Расея перад вайною вывозіла заграніцу хлеба больш, чымся якая-небудзь іншая дзяржава, цяпер-жа вывозіць яго зусім мала, бо сялянства ня хоча гэтага збожжа даць.

Таксама блага жывецца і іншым клясам у Расеі. Гандляры, інтэлігэнцыя церпяць нэндзу, маўчаць, бо кругом сочаць шпікі і за былле што Г. П. У. (даўней чрэзвычайка) арыштоўвае, а суды караюць горш, чымся перад вайною.

Камуністычны лад трымаецца страшэнным тэрорам, якога ад часу Івана Грознага ня было ў Расеі. Там цяпер усе прывыклі ціха гаварыць, бо кожны баіцца, што вось-вось пачуе вуха шпіка і пачнуцца дапросы ды турма калі ня горшае.

— „Чаму-ж трымаецца такі лад у Расеі?“— спытае чытач.

Трымаецца ён страхам перад камуністымі, якім адным дагэтуль жылося добра, і нехватам арганізаваннасьці ў народзе.

Але вось паміж самымі камуністымі пачаліся спрэчкі. Дужэйшыя з іх, тыя, ў чыіх руках войска і паліцыя, саслалі ў Сыбір сваіх быўшых таварышоў ды вучыцялёў камунізму, таварышоў камуністычнага прарока Леніна (Троцкі, Каменеў, Зіноўеў, Прэабражэнскі, Ракоўскі). Саслалі іх за крытыку бальшавіцкага ўраду ды толькі за гэта, бо-ж яны супроць камуністых ня йшлі і іншага дзяржаўнага ладу ўводзіць ня думалі.

У зьвязку з гэтымі рэпрэсіямі проціў г. зв. апазыцыяністых, у радох самае камуністычнае партыі ды ў войску пачаліся хваляваньні і пратэсты проціў цяперашняга дыктатара Расеі Сталіна і яго таварышоў.

Такім чынам, у Савецкай Расеі побач з страшэнным крызысам эканамічным, беспрацоўем, тэрорам і няпэўнасьцю за заўтрашні дзень істнуе барацьба ў радох пануючае камуністычнае партыі. Нядаўна Сталін выслаў у Сыбір сваіх таварышоў, а мо' хутка іншы камуністы вышлюць туды-ж самога Сталіна. Так заўсёды канчаліся дыктатуры. Мо' гэта канец і камуністычнае дыктатуры ў Расеі, дзе ўсе слаі насяленьня маюць даволі ўлады невялікай кучкі тэрорыстых і чакаюць паправы ўмоваў жыцьця і свабоды.

Усе прадказваюць, што нешта новае здарыцца ў Расеі, дзе камуністыя адыйдуць ад улады.

ды гэтак, як расказвае яе Міссан-Казіцкая, — мы аднак знаходзім пацьвярджэньне словаў яе.

Вось, напрыклад, карэспондэнцыя, надрукованая ў № 6 (533) „Чырвонае Зьмены“ за 15 студня 1928 г. пад заг. „Врудныя справы“:

„Вялікая бесгаспадарчасьць існуе ў Заазерскім дзіцячым доме (Сянно, Віцебшчына). З прычыны адсутнасьці ўмывальніка, мыла і ручнікоў, дзеці ніколі ня мыюцца. У памешканьні брудна, у кухні чыстаты каля двух год не наводзілі, падлога і сьцены чорныя. Дзеці адзеты вельмі дрэнна, у шмат якіх адсутнічае нацельная бялізна“.

З гэнай маленькай зацемкі відаць, што нажаль прыкрасаў няма ў апісаньні М.-К. Няма таксама прыкрасаў у словах М.-К., калі яна ў канцы свайго артыкулу кажа, што на 2 мільёны жыхароў Масква мае зарэгістрованых 464 тысячы беспрацоўных. Вось як выглядае той „рай“, які могуць даць камуністыя.

## Пошасьць нашага грамадзкага жыцьця.

Бальшавікі для агітацыйных мэтодаў „загулялі ў Беларусь“. Яны тры разы аб'яўлялі незалежнасьць Беларусі, разагнаўшы перад гэтым першы Ўсебеларускі Зьезд, які не хацеў слухаць маскоўскіх дыктатараў, убраўшыхся ў чырвоныя вопраткі крыві і тэрору і блазнаў.

Добра ведаючы аб істнаваўшых у сялянстве сымпатыях да даўных даваенных умоваў жыцьця, калі была магчымасьць эміграцыі на заработкі ў вялікую Расею, дзе перад самаю вайною шыбка разьвіваўся промысел, знаючы простую лёгіку селяніна, якому перад вайною лепш жылося тут у Заходняй Беларусі, чымся цяпер, калі гаспадарка ня была зруйнована вайною, а лягчэй было зарабіць рубель, бальшавікі цераз цэлую сетку агентураў пачалі вялікую прапаганду сваіх ідэяў сярод беларускіх масаў. І трэба прызнацца, што часта траплялі на падатны грунт, бо рабілі сваю работу сярод безработнае беларускае вясковае інтэлігэнцыі ды поўінтэлігэнцыі. Яна апынулася тут у вельмі цяжкім палажэньні западозранага мясцовага элемэнту, перад якім аказаліся зачыненымі ўсе варстаты працы.

Шукаючы выхаду з свайго нэндэнага палажэньня, гэтыя безработныя масы хацелі пайсьці туды, дзе калісьць перад вайною была праца і магчымасьць жыцьця, на Ўсход, у Расею. Але туды дарога аказалася зачыненаю. Бальшавікі агарадзіліся дротам і паліцэйскаю сыстэмаю пашпартоў. Не даючы права ўезду ў Расею, бальшавікі цераз сетку агентаў пачалі вясьці працу сярод гэтае безработнае інтэлігэнцыі, пашыраць там камунізм у імя сусьветнае рэвалюцыі.

За удзел у камуністычнай, падпольнай і нелегальнай рабоце на карысьць нібы сусьветнае рэвалюцыі, але перад усім Масквы, агентуры бальшавікоў, абяцалі даць магчымасьць праезду ў Расею, дзе была надзея знайсьці працу. Ведама, рабілі свае і грошы, якіх нямала кідалі бальшавікі на агітацыю. Умела выкарыстоўваючы цяжкае палажэньне беларускае сялянскае, інтэлігэнцыі ў Заходняй Беларусі, і ўводзячы яе ў круг сваіх ўплываў, бальшавікі прычынялі ўсьцяж вялікую крыўду справе беларускага адраджэньня. Яны правакавалі гэтую інтэлігэнцыю і ўкідалі яе ў турмы, дзе апынулася шмат культурных сілаў беларускіх, а з другога боку вызвалі ў радох польскага грамадзянства і адміністрацыі пагляд, быццам уся беларуская інтэлігэнцыя зьяўляецца склоннай да бальшавізму, а прынамсі яму сымпатызуець. А такі пагляд вытвараўся тым лягчэй, што грамадзянства польскае і адміністрацыя вельмі слаба орыентаваліся ў беларускім пытаньні.

Аднак, гэта было-б поўбяды, калі-б урэшце, дзякуючы прапагандзе бальшавіцкіх агітатараў і благой палітыцы эндэцкіх польскіх урадаў не вытварыўся нейкі прыхільны да камунізму чад, які стаў разьядаць беларускае грамадзкае жыцьцё. Сталася тое, што далёкія ня толькі ад камунізму, але навет ад звычайнага радыкалізму бе-

Ведама, тая новая ўлада ня будзе камуністычнаю і ўсё, што носіць пячаць камунізму, будзе прасьледаваца ды нішчыцца. Такі ўжо закон гісторыі, асабліва трэба яго чакаць пры ўмовах расейскага жыцьця цяпер.

У зьвязку з гэтым паўстае перад беларусамі пытаньне: „а што-ж тады чакае Усходнюю Беларусь, камуністычны хвальварак, дзе ўсім кіруе кат Беларусі Кнорын па прыказу з Масквы?“

Пасьля ўпадку бальшавікоў тая новая сіла, што заменіць іх у Расеі, бязумоўна крывым вокам будзе глядзець на ўсю работу беларусаў. Там больш цяжкі лёс чакае сьвядомае беларускае грамадзянства на Усходзе ў выпадку перамены ў Расеі, што адразу паўстануць усе „ісьціна рускія“ людзі, якія перад вайною мелі такія вялікія ўплывы ў Менску. Пачнецца ізноў ваяўнічы паход русыфікацыі на Беларусі, ізноў усё беларускае будзе пастаўлена на чорную карту „неблагонадёжнае“ работы.

Гэтая магчымасьць перавароту і яго скуткаў у адносінах да беларусаў ставіць пад вялікі знак пытаньня ўсю культурную работу, якая зроблена і робіцца ўва Усходняй Беларусі.

Для беларусаў на Усходзе пераварот прынясе многа добрага, бо пазволіць заявіць аб сваіх сапраўдных жаданьнях і дасьць магчымасьць пазбавіцца чужога ім пролетарскага, бязбожнага сьветапагляду, які разьядае беларускае сялянскае жыцьцё.

Дасьць магчымасьць навязаць зносіны з братамі ў Заходняй Белерусі, дзе прападзе чад камуністычнага ладу, які атручвае нашае жыцьцё.

Небясьпеку-ж велікарасейскага наступу хіба патрапяць спыніць тыя сьвядомыя беларускія некамуністычныя сілы, якія ўжо вырасьлі на Усходзе і Захадзе ад крывавага шляху—Рыскае мяжы.

Перад імі паўстане заданьне сапраўднага будаўніцтва незалежнасьці Беларусі, бо толькі тады народ зможа выявіць усю сваю сілу і здаволіць свае патрэбы ўва ўсіх галінах нацыянальнага жыцьця.

*С.*

ларусы паддаліся псыхозе і камуністычную брахню прымалі за праўду і перамянілі свае беларускія нацыянальныя ідэалы на нейкую кітайшчыну ў імя дабра і вызваленьня працоўных масаў усяго сьвету, якое меў нібы даць бальшавізм.

Вытварылася дзікае незразумелае палажэньне: Беларусы пазбаўленыя пролетарыяту, сяляне, для якіх ідэалам зьяўляецца свой уласны кут—кусок зямлі і хата,—каб спакойна працаваць на кусок свайго хлеба, асягненьне гэтага свайго ідэалу мелі здабыць пад бальшавіцкім рэжымам, дзе няма ўласнасьці на зямлю, а інтарэсы сялян заўсёды пакрыўджаны гарадзкімі работнікамі.

Гэты чад камуністычнае пошасьці пранік у нашае жыцьцё і разьядае яго дагэтуль. Апогэем яго была „Грамада". Апошнія падзеі, аднак, паказалі, што ўплывы бальшавіцкіх агітатараў малеюць. Для справы адраджэньня Беларускага Народу, для магчымасьці злучэньня ўсіх нацыянальна-сьвядомых культурных сілаў, для ўратаваньня культурных здабычаў і пашырэньня культурнае, нацыянальнае і палітычнае работы, зьяўляецца неабходным выкінуць з беларускага жыцьця гэтую камуністычную ўкрытую пошасьць. Барацьбы з ёю вымагае чыстата справы Беларускага адраджэньня, і яе павінны правясьці самі беларусы, якім ляжыць на душы і сэрцы дабро Народу.

---

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Чым дрэнна ў вёсцы і чаму лепей на хутары?

### I. Чым дрэнна ў вёсцы?

**Цераспалосіца і шкоды ад яе.** Ня толькі ў нас, але ўсюды, дзе людзі сяліліся вёскамі, там належачую да іх зямлю яны дзялілі паміж сабою цераспалосна. Кожны гаспадар атрымоўваў на сваю долю паласіну лепшай і паласіну пушчэйшай зямлі, паласіну бліжэйшую і паласіну далейшую і г. д. Гэткім парадкам, даўнейшыя гаспадары хацелі захаваць поўную справядлівасьць пры разьдзеле зямлі.

Даўней, калі гаспадароў у вёсцы было мала і палосы былі шырокія, нявыгаднасьць такога падзелу зямлі, пры нізкай тагочаснай земляробскай тэхніцы і культуры, або зусім не адчувалася, або проста ня бралася пад увагу. Але па меры таго, як, дзякуючы прыросту насельніцтва вёскі, палоскі гэтыя дзяліліся ўдоўжкі і папярок і ад гэтага ўсё вузелі і вузелі, нявыгаднасьць цераспалосіцы стала сама кідацца кожнаму ў вочы.

Частыя недароды, бясхлебіца і бяскорміца, якія выклікала цераспалосіца, прымусілі людзей шукаць выхаду з такога цяжкага становішча і зьвярнуць большую ўвагу на павялічэньне ўраджайнасьці свае зямлі. Найболей пэўным і пры тым лягчэйшым спосабам для гэтага знайшлі падзел зямлі не цераспалосна, як раней, а на стольні кускоў, колькі ёсьць гаспадароў у вёсцы. Інакш кажучы, земляробы сталі пераходзіць ад цераспалосіцы, на хутары.

Чым-жа дрэнна цераспалосіца? Перш за ўсё тым, што надта вялікі кавалак зямлі прападаець без усялякага зыску пад межамі. Сягоньня зусім ня трудна знайсьці вёску, ў якой гаспадар маець па 20 палосінаў (шнуроў, нівак, пярэчкаў, гоняў) у кожным полі. А значыць і столькі сама межаў. Калі палічыць навет сама скупа шырыню мяжы каля яго паласіны паўаршына і дадаць да яе шырыню двух баразён каля межаў, якія таксама не даюць карысьці, то зусім нятрудна вырахаваць, колькі дарма прападаець зямлі ў гэтага гаспадара. І нам здаецца, калі-б кожны гаспадар па вольным часе зрабіў такі падрахунак, то напэўна-б сам пераляхнуўся ад страху. Каб скасаваць усе межы, то гаспадар, маючы 20 палосінаў у кожным полі (на трох палёх 60) меў-бы яшчэ кусок зямлі шырынёй 60 аршын ці 20 сажняў (лічачы 60 межаў па паўаршына і дзьве баразны каля кожнай мяжы—па столькі сама). Калі палічыць сярэднюю даўжыню кожнай мяжы навет на 120 сажняў (а даўжыня мяжы часта бывае навет паўвярсты, а то і вярста), то памножыўшы шырыню ўсіх межаў (20 саж.) на сярэднюю даўжыню іх (120 саж.), бачым, што ў гэтага гаспадара роўна адна дзесяціна зямлі прападаець пад межамі.

А колькі ўсяго маець зямлі такі гаспадар, у каторага адна дзесяціна прападаець бяз ужытку пад межамі—навялікае 4 — 5 дзесяцін, а то можа ўсяго 2—3. І ў той час, калі свая зямля марнуецца дарма, такі небарака, каб выбіцца з галадоўкі, кідаецца на ўсякія запашкі, заработкі за некалькі вёрст на старану і атрымоўваець з гэтага часта-густа навет меней карысьці, чым магла-б даць яго, ляжачая пад межамі, дзесяціна.

А колькі карысьці магла-б даць уся тая зямля, якая дарма ляжыць пад межамі ў цэлай вёсцы, у якой гаспадароў 30—40. Лічачы сярэдні ўраджай у нас жыта 50 пудоў з дзесяціны, гэтыя межы маглі-б даць у год каля 1000 пудоў жыта і ярыны.

А тымчасам гэта зямля, што ляжыць пад межамі ня толькі не даець а ніякай карысьці, але прыносіць яшчэ страты. За гэту зямлю трэба плаціць падаткі, адбываць усялякія шарваркі. Апрача таго, кожная мяжа чыніць вялікую шкоду тым, што на ёй разрастаюцца дзікія травы, якія засьмечваюць ніву і збожжа. На межах знаходзяць для сябе добры прытулак усялякія шкадлівыя для збажовых расьлінаў кузюлькі і грыбкі.

Усім вядомым фактам ёсьць той, што ўраджайнасьць зямлі залежыць ад вырабу яе. Навет самае найлепшае ўгнойваньне ня дасьць належнай карысьці, калі зямля будзе нявыараная. Арба плугам павінна рабіцца ўдоўжкі і папярок нівы (калі першы раз араліся ўдоўжкі, то другі раз павінна арацца папярок загону), таксама і баранаваньне. А ці можна вырабіць зямлю добра пры цераспалосіцы?

Надта часта можна бачыць на полі такія палоскі, на якіх з трудом можаць праціснуцца толькі адна барана. На гэткай паласіне толькі

і магчыма калупацца сахой, якою ніколі зямлі ня вырабіш. Але возьмем паласіну шырэйшую: сажні 2—3; гэтакіх у нас ёсьць найболей. Араць гэткую паласіну плугам прыходзіцца ў склад па сярэдзіне. Ад гэткай арбы сярэдзіна бывае пагурыстая, а каля межаў канавы чуць не да каленак глыбіні. Рост збожжа на гэткай ніве, дзякуючы таму, што ўся гнойная лепшая зямля згорнена на сярэдзіну, бывае неаднальковы. На сярэдзіне хлеб бывае буйны, цёмны, а па бакох, дзе вывернены наверх дзікі пясок, бледны, дробны. Каля межаў хлеб часта вымакаець, а на сярэдзіне высыхаець. Вясной сярэдзіна загону высыхае хутка, але па бакох доўга стаіць вада, так што з арбой прыходзіцца ждаць, пакуль яна высахнець, а пакуль высахнуць бакі, сярэдзіна ўжо бываець перасохшай.

Трэцяя нявыгада цераспалосіцы гэта—доўгазямельле. Чым большая вёска, тым далей расьцягнена поле. Ня дзіва зусім спаткаць такія вёскі, дзе поле расьцілаецца на вярсты 2 — 3 на ўсе бакі ад сялібаў. Ці трэба яшчэ казаць аб тым, колькі лішняга часу і лішняй працы траціцца на возку гною, снапоў, сена, а таксама на пераходы і пераезды з нівы на ніву з плугам, касой і сярпом. Тое, што можна было-б эрабіць за дзень (напрыкл., возка гною) прыходзіцца рабіць цэлы тыдзень. Адзін вучоны немец вырахаваў, што кожныя 100 сажняў адлежнасьці поля ад сялібы памяншаюць даход ад гаспадаркі на 5%, адна вярста на 25% (на чацьвёртую часьць), а пры адлежнасьці поля ад сялібы на 4—5 вёрст прападаець увесь даход.

**Залежнасьць аднаго гаспадара ад іншых.** Апрача таго, што шмат зямлі ў вёсцы марнуецца пад межамі, ня менш прападаець яе без належнага ўжытку пад парасьнікамі, амшарамі, баравінамі, карчавязямі, курганамі і г. д. Прывёўшы да парадку гэтыя землі, а для гэтага ў вёсцы хваціла-б і сілы і часу, можна было-б мець з іх вялікую карысьць. Але ўся бяда ў тым, што для таго, каб прывясьці іх да парадку, патрэбна згода ці ахвота ўсіх гаспадароў вёскі. Дабіцца згоды ўсей вёскі заўсёды бывае немагчымым, дзякуючы неаднолькавай заможнасьці гаспадароў, неаднолькавай працаздольнасьці іх і сьвядомасьці. А дзеля гэтага ў вёсцы самы найлепшы гаспадар мусіць разам з усімі цярпець холад і голад толькі дзеля таго, што ён ня маець магчымасьці павясьці гаспадарку так, як трэба, бо на гэта не даюць згоды суседзі, якія па несьвядомасьці сваёй ці проста па гультайству, а часта толькі па злосьці, гатовы лепш не даядаць, чым рашыцца на новы спосаб гаспадаркі.

**Трохпольная сыстэма гаспадаркі.** Разам з вёскай і цераспалосіцай у нас цесна зьвязана і трохпольная сыстэма гаспадаркі, пры якой увёсь абшар належачай да вёскі зямлі дзеліцца на тры палі: папар, ярына і жыта. Праўда, быў некалі час, што і трохпольле, як і цераспалосіца, мела сваю выгаду для земляроба. Але ізноў-такі гэта было тады, калі людзей было меней, а абшар зямлі быў шмат большы, калі аб тым, чым і як пракарміць зімой скаціну ні ў каго ня было думкі: сенажацяў і пасьбішча было колькі хочаш.

Вядучы трохпольную гаспадарку цяпер, калі бадай што ўсе сенажаці і выганы разворавы, сяляне нясуць надта вялікія страты. Дзеля таго, каб зямля пры трохпольлі добра радзіла, патрэбна многа гною, а каб мець многа гною, трэба мець многа скаціны, а каб трымаць многа скаціны, трэба мець для яе многа корму—зімой і ўлетку, якога пры трохпольлі якраз заўсёды бываець недахват, а раз недахват корму, то ня можна мець столькі скаціны, каб задаволіць зямлю гноем, а праз гэта няма як мець а ніякай надзеі на ўраджай хлеба.

Толькі там, дзе апроч ральлі ёсьць досыць лугоў і пасьбы для належнага пражыўленьня скаціны зімой і ўлетку, трохпольле можа яшчэ існаваць. Але, здаецца, гэткіх месцаў ёсьць зусім мала, калі не сказаць, што ў нас іх зусім няма.

Шмат дзе гаспадары ўжо даўно, зразумеўшы ўсю недарэчнасьць трохпольля, перайшлі на новыя спосабы гаспадаркі. Яны пераканаліся ў тым, што нячым купляць сена ці салому на старане і траціць на гэта апошнія грошы, час і здароўе, шмат лепей завясьці на полі пасеў ня толькі збожжа сабе на хлеб, але і травы на корм скаціне. А дзеля гэтага падзялілі сваю зямлю не на тры палі, а на 4, 5, 7, 8 і болей.

Як перайсьці ад старога трохпольля да новых спосабаў польнай гаспадаркі і якая карысьць ад гэтага, мы паталкуем хіба другі раз. Зазначым толькі, што гэтыя спосабы цяпер зусім не зьяўляюцца сакрэтамі, бо аб выгадзе пасеву на полі канюшыны чуў кожны селянін. У кожнай вёсцы вы сягоньня знойдзеце многа ахвотнікаў завясьці канюшыну на полі на корм. Але, як было казана раней, самыя добрыя пажаданьні болей сьвядомых гаспадароў ня маюць пасьпеху ў вёсцы, дзякуючы несьвядомасьці, а то проста нядбальству суседзяў.

Мы коратка пералічылі толькі галоўнейшыя прычыны, ад якіх дрэнна жыць у вёсцы. Прычыны гэтыя палягаюць на неразумным падзеле зямлі паміж гаспадарамі (цераспалосіца) і на старым няпрыгодным спосабе карыстаньня ёю (трохпольле). Але, каб адказаць поўна на пастаўленае намі пытаньне: *чым дрэнна ў вёсцы*, неабходна дадаць, што і само грамадзкае жыцьцё ў вёсцы зьвязана з заўсёднаю калатнёю, судамі, сваркай і пабоямі паміж сабою гаспадароў за межы, куры, сьвіньні і г. д. А гэтыя суды і сваркі ня толькі аднімаюць час і ахвоту ад работы, але робяць гаспадароў ворагамі адзін проці аднаго, дзякуючы чаму сяляне ня могуць ніколі дабіцца згоды на палепшаньне свае марнае гаспадаркі, навет тады, калі ўсе адчуваюць у гэтым неабходную патрэбу.

Можна сьмела сказаць, што ў сучасны мамэнт вёска ёсьць ня што іншае, як путы, якія зьвязваюць сабой усякую добрую волю і шчырае жаданьне болей сьвядомых, болей перадавых гаспадароў палепшыць сваю гаспадарку, направіць свой дабрабыт. І калі, не зважаючы на ўсё вышэйсказанае, людзі яшчэ жывуць у вёсцы, то толькі затое, што гэтая самая вёска давяла іх да таго, што бяз вонкавага моральнага і матар'яльнага падтрыманьня, яны ня ў стане выкабаліцца з яе.

## II. Чаму лепей на хутары?

Якія-ж выгады даець хутар у параўнаваньні з вёскай? З пераходам на хутары, калі ня зусім, то ў вялікай меры касуюцца ўсе пералічаныя намі нявыгады, якія цесна зьвязаны з вёскай:

цераспалосіца, трохпольле, доўгазямельле і г. д. Хутар разьвязвае рукі кожнаму гаспадару, робіць яго незалежным ад іншых. Хутар прымушаець гаспадара жыць сваей галавой, сваім розумам, а ня слухаць грамады як гэта бывае ў вёсцы. Кожны гаспадар на хутары сам сабе пан: як ён захоча, так і пакіруець сваю гаспадарку, якая заўсёды ў яго на вачох. Хутар зьнімаець з плячэй гаспадара шмат лішняе працы, якая не давала яму пардону ў вёсцы. З перахадам на хутар у гаспадара павялічваецца плошча ральлі. Апрача скасаваньня праклятых межаў, кожны гаспадар рупіцца расьцерабіць усе кусты, асушыць нізіны, ўзараць курганы, бо ён ведае, што гэта цяпер ня ўсіх, а яго аднаго. Ад павялічаньня плошчы ральлі, у гаспадара павялічваецца запас корму на зіму для скаціны. А раз будзе болей корму, болей будзе гною і большы будзе ўраджай.

Нарэшце, дзеля таго, што на хутары гаспадар павінен спадзявацца сам на сябе ўва ўсіх гаспадарскіх справах, ён робіцца рашучым і ад гэтага ўсе палепшаньні, новыя способы польнай гаспадаркі пашыраюцца на хутарох шмат хутчэй, чым пры вясковай цераспалосіцы. А ад гэтага падымаецца дабрабыт ня толькі іх асабісты, але разам і ўсяго краю.

*Янка Пачопка*

---

# Як трэба садзіць маладыя дрэвы.

Кожны гаспадар, маючы невялічкі садок, умее пасадзіць маладое дрэўца; але паміж іншым не ўва ўсіх атрымліваецца аднолькавы рэзультат. Дужа часта ў жыцьці сустракаецца, што ў аднаго гаспадара пасаджанае маладое дрэўца хутка пачынае расьці і пакрываецца лісьцьцём, тымчасам, як у другога яно паступова пачынае гінуць, прычынай чаго і зьяўляецца вось гэты неправідловы дагляд і пасадка маладога дрэўца. Шматгадовае практычнае жыцьцё паказала гэтыя абмылкі нашага селяніна і кажа пры пасадцы маладых дрэўцаў прытрымлівацца ніжэйсказанага парадку саджэньня, дзякуючы чаму яны хутка пускаюцца ў рост.

**Час пасадкі.** Першым пытаньнем кожнага пачынаючага разводзіць сад гаспадара і будзе: калі пачынаць пасадку дрэваў, вясной ці ўвосень? Ня гледзячы на тое, што гэта пытаньне зьяўляецца адным з галаўнейшых мы можам сказаць, што гэта пытаньне да гэтага часу ня вырашана, бо як адна, так і другая пасадка мае свае лепшыя і горшыя бакі.

Але, паводле большасьці практыкаў, лепш удаецца пасадка вясной, дзеля таго, што пасаджанае вясной дрэўца да восені пасьпявае акрэпнуць і лягчэй перанясьці зіму. Яшчэ можна заначыць, што пры пасадцы важна тое, каб час выбранага маладога дрэўца з зямлі да пасадкі яго на месцы быў як мага карацейшы, бо часта здараецца, што пры выпісцы дрэўцаў здалёку, яны растуць дужа вяла.

Вясной пасадку трэба рабіць як мага раней, як толькі адтане сьнег і дрэвы яшчэ ня пусьцяцца ў рост, пры чым зямля, якой засыпаюць пры пасадцы яму, павінна быць адтаўшы, тады як у яме яна можа быць крыху мерзлай, што ў кожным разе ня прыносе шкоды для маладога дрэўца.

**Разьмер ямаў.** Пасадка вясной робіцца ў нарыхтованыя ўжо з восені ямы, ці ў сьвежыя; што тычыцца разьмеру ямаў, то яны могуць быць глыбінёй ня больш як 1 арш., а шынынёй на 2 аршыны (для костачкавых: сьліваў і вішань), да 3-х арш. (яблыні і грушы).

Наагул, пры капаньні ямаў трэба прытрымлівацца таго закону, што чым горшы будзе грунт, тым шырэй, але ня глыбей трэба капаць ямы. На добрым і пухкім грунце можна абмяжоўвацца шырынёй ад $1^1/_2$ да 2-х арш., а на грунтох цьвёрдых, камяністых патрэбна павялічваць шырыню да 3-х арш., пры аднэй і тэй-жа аршыннай глыбіні ў абодвух выпадках.

**Пасадка.** Перш, чым садзіць дрэва, яму трэба напоўніць пухкай зямлёй блізу да паловы; далей убіваюць пасярод ямы кол і пасьля абгледжаньня і абрэзкі каранёў садзяць ужо дрэва. Трэба заўважыць яшчэ тое, што ніколі ня ўбіваецца кол, калі дрэўца ўжо пасаджана, дзеля таго, что можна зашкодзіць карэньням. Самыя калы павінны быць роўнымі, гладкімі і абчышчанымі ад кары, і каб можна было прывязаць да іх пасаджанае дрэва, яны павінны быць яшчэ даволі таўстыя; даўжынёй могуць быць да 3-х арш. Дужа важна яшчэ перад пасадкай, каб карэньні ня былі паломаныя і падрапаныя, калі гэткія знаходзяцца, дык трэба іх абцінаць да здаровага месца, а ўсе верхнія пашкоджаньні трэба саскрабаць ножыкам і таксама заадно можна дужа даўгія карэньні паабівацьь. Пры абцінаньні таўстых карэньняў абавязкава трэба абцінаць так, каб усе абцятыя месцы былі зьвернуты да сярэдзіны каранёвай сыстэмы. І вось пасьля агляду і абцінкі карэньняў, варта абмакнуць яшчэ ў гліняную з каровім калам рошчыну і садзіць пасьля дрэўца на месца.

Самую пасадку лепш вясьці ўдваіх: адзін павінен трымаць дрэўца ў простападным напрамку, а другі распраўляе карэньні і засыпае іх зямлёй. Дрэўца пры пасадцы устанаўліваецца з паўночнага боку кала, тады ён будзе крыху зацямняць маладое дрэўца і можа зьберагчы ад апаленьня сонцам яго маладую скурку ў гарачае лета.

Вялікую ўвагу трэба ўдзяляць пры пасадцы на яе глыбіню. Трэба заўсёды трымацца, як кажуць, таго закону, каб маладое дрэўца пры пасадцы было засыпана зямлёй ня вышэй каранёвай шыйкі — гэта значыць месца злучэньня карэньняў са сьцяблом дрэва. Між іншым трэба мець яшчэ на ўвазе, што пасьля пасадкі зямля можа апасьці глыбей, дзеля гэтага трэба зьвяртаць увагу, каб каранёвая шыйка была троху вышэй насыпанай зямлі. Пры засыпаньні карэньняў неабходна яшчэ іх хараша расправіць, або калі яны будуць з густой мочкай, то дрэўца заўсёды трэба ўстрахнуць, каб зямля запоўніла ўсе праменжнасьці паміж каранямі. Пасьля засыпкі ямы, робяць каля дрэўца на ўсю шырыню ямы лунку, паліваюць 5 — 6 вёдрамі вады і працу можна лічыць закончанай. Пасьля паліўкі, калі ўся вада ўсмокчацца грунтам, лунку трэба закрыць зямлёй і саламяным гноем, а праз некалькі дзён, калі зямля каля дрэва асядзе, трэба яго нятуга падвязаць лыкам да кала, а паміж імі палажыць пучок саломы ці моху, каб маладая кара не папсавалася каля кала. Гэты пасадачны кол з часам прыймаецца зусім; робіцца гэта ўжо тады, калі пры калыханьні ветрам дрэўца каля кара-

нёвай шыйкі ня будзе тварыцца пустата, тады, значыць, дрэўца акрэпла і стала стойкім, а дзеля гэтага і патрэбнасьць у пасадачным кале не абавязковая, і яго можна прыняць. Каб перасьцерагчы маладое дрэўца ў першае лета ад сонца, якое можа папсаваць маладую кару, добра рабіць абвязку саломай, ці мохам гэтага дрэўца. Далейшы дагляд маладога дрэўца будзе ў тым, каб скіраваць усе сілы на вытварэньне лепшае каранёвай сыстэмы і здаровай кроны, аб чым будзе напісана ў наступных нумарох нашае газэты.

S.

## Як і чым корміцца расьліна.

У 40 нумары „Беларускага Дня“ гаварылася аб тым, што кожная расьліна для свайго жыцьця патрабуець мінэральнага корму, як азот, фосфар, паташ, вапна, жалеза і серка. Разгледзім цяпер кожны з гэтых кормаў паасобна, а таксама якім спосабам расьліны гэтыя кормы прыймаюць.

**Азот.** *Што такое азот?* Азотам зьяўляецца адна з многіх складных часьцінаў прыроды, таксама, як жалеза, фосфар, вапна, серка, кіслярод, як кажуць хімікі, ёсьць адным з элемэнтаў прыроды. У самародным стане выступае ён у прыродзе, як газ і становіць галоўную часьць паветра. Паветра маець у сабе $^4/_5$ часьці азоту. (Склад паветра такі: 78,06% азоту, 20,97% кіслароду, 1% іншых газаў). Такім чынам, паветра зьяўляецца нязьмернай крыніцай азоту, аднак азот беспасрэдна з паветра для расьлінаў ёсьць недаступны і яны беспасярэдна з паветра азоту браць ня могуць на корм для сябе. Толькі не калькі гатункаў расьлінаў, г. зв. матыльковыя (аб чым скажам пазьней) можа прысвойваць сабе беспасярэдна азот з паветра. А так, дык усе расьліны дастаюць азотны корм з зямлі пры помачы сваіх карэньняў.

**Азот у зямлі.** Усюды, дзе ёсьць жыцьцё ў прыродзе, ёсьць там і азот. Азот зьяўляецца складовай расьцінай кожнага жывога твору і кожнае расьлінкі, навет найменшай. У жывых істотах знаходзіцца азот у постаці бялку.

Бялок жывых істотаў зьяўляецца крыніцай натуральнага запасу азоту ў зямлі. Усё ўміраючае, пасьля сьмерці, гніець. Розныя гамёршыя істоты, і астаткі іх, а таксама выдзяленьні жывое жывёлы, раскладаюцца ў зямлі—і разам з гэтым раскладаецца быўшы ў іх бялок. У выніку вельмі складанага працэсу раскладу бялка паўстаюць азотныя злучэньні, якія ўжо зьяўляюцца кормам для расьлінаў. Імі будуць розныя азотныя солі, якія распускаюцца ў вадзе і цераз карэньні пападаюць да расьлінаў і кормяць іх.

Разлажэньне бялка ў зямлі выклікана бактэрыямі, найдрабнейшымі жывымі арганічнымі творамі. У выніку працы бактэрыяў раскладаецца бялок на прасьцейшыя часьці і творацца азотныя солі ці азотоны. Гэтыя азотоны зьяўляюцца гатовым кормам для расьлінаў. Яны распускаюцца ў вадзе, якая іх выбірае з зямлі і з вадою пападаюць у расьліны. А з гэтага відзім, што лік азоту ў зямлі не зьяўляецца нечым сталым і залежыць ад розных прычынаў.

**Які грунт мае ў дастатку азоту, а ў якім яго не хапае?**

Найбагацейшымі азотам зьяўляюцца грунты чорназемныя. Чорназем гэты мае ў сабе многа нераспушчанага бялку, які зьмяняецца ў азотныя солі, апрача таго чорназем мае тую ўласьцівасьць, што ён убірае і перэтрымлівае ў сабе азот.

Багата маюць азоту грунты, якія сыстэматычна ўдабраюцца гнаямі і добра абрабляюцца. Добрая апрацоўка зямлі спрыяе жыцьцю бактэрыяў, дапушчае ў грунт паветра, а ад бактэрыяў, як ведаем, залежыць разлажэньне бялку. Дзеля гэтага часта бачым тое, што пры блага дагляданай зямлі мала памагае гной.

Даволі азоту могуць мець грунты гліністыя, калі яны аддаўна добра абрабляныя, бо яны таксама перэтрымліваюць азотныя солі. Найменш маюць азоту грунты пясчаныя і тыя, на якіх расло збожжа і расьліны акопныя.

І так, пшаніца пры поўным ураджаі забірае з зямлі 85 кг. на дзесяц. азоту. Калі пералічыць на салетру, гэта будзе раўняцца 5 мяшком чылійскай салетры.

Жыта пры поўным ураджаі забірае каля 63 кг. на дзесяц. азоту, што раўняецца 4 мяшком салетры.

Ячмень забірае 59 кг. азоту на дзесяціну.

Авёс 67 кг. азоту.

Бульба забірае пры добрым ураджаі 96 кг. азоту, або столькі, колькі яго ёсьць у 6 мяшкох салетры.

Кармовыя буракі—129 кг. азоту.

Морква пры добрым ураджаі—133 кг. азоту.

Таксама шмат азоту забіраюць і іншыя расьліны: (капуста, бручка і інш.). Як відаць з гэтага, запас азоту ў зямлі памяншаецца пры кожным ураджаі.

У пясчаных грунтох азот ня можа доўга захавацца, бо азотныя солі выпалоскваюцца вадою.

Найгалаўнейшай крыніцай азоту для грунту зьяўляюцца гнаі. Толькі тыя грунты будуць мець яго даволі, якія без перарываў атрымліваюць гной, або калі на іх сеюцца г. зв. „матыльковыя“ расьліны: канюшына, лубін і сарадэля на гной, калі яны заорваюцца. Бо трэба помніць аб тым, што гадавы ўраджай забірае з грунту вельмі многа азоту і каб грунт ня зьдзічэў, каб меў тую самую моц,—трэба аддаць для грунту азот назад.

Збожжа выбірае з зямлі больш азоту, чымся іншых патрэбных кормаў.

*Аграном.*

## Сяўба лубіну на насеньне.

Трэба добра выбіраць сорт лубіну. У Беларусі часьцей усяго разводзяць лубін сіні і жоўты.

Насеньне лубіну, паляжаўшы, лёгка псуецца і слаба ўсходзіць. Калі насеньне акажацца добрым, то яго высяваюць на дзесяціну 10 — 14 пудоў.

Лубін пры прарастаньні выносіць наверх першую пару сваіх лісткоў (семядолі).

Памятаючы гэта, насеньне лубіну ня трэба глыбока забараноўваць.

Лубін баіцца холаду, загэтым яго трэба сеяць тады, калі пройдуць вясновыя марозікі. Аднак і пазьніцца з сяўбой лубіну ня трэба, бо ён не пасьпее. У нас заўсёды ранейшыя засевы лубіну даюць больш карысьці, чым позьнія.

**Да ведама падпісчыкаў і чытачоў.**

№ 4 (44) „Беларускага Дня“ выйшаў ня ў суботу 21 студня, а 25 студня ў сераду. Прычынай спазьненьня выхаду 44 нумару была забастоўка друкароў.

Адміністрацыя.

## Шануйце сенажаці.

З надыходам вясны многія гаспадары бядуюць, што не хапае і зусім няма пашы; бядуюць аж праз усё лета. Але справа ня ў тым, — пашы ня мала, яе хапіла-б, але сяляне ня ўмеюць яе выкарыстаць, ня ўмеюць шанаваць.

Як толькі сьнег крыху зыйдзе, пакажацца зямля, дык сяляне ўжо і выганяюць жывёлу на поплаў. Але зямля вясною мокрая, і калі пусьціць скаціну, дык вядома, што ўсё карэньне заганяецца капытамі ў зямлю. Ад гэтага і сена мала зьбіраем і пашы ня маем. Каб гэта ўсё зжыць, дык памятайце, што скаціны, пакуль поплаў ня высах, ня пускайце. Дайце ўзяцца добра карэньням за зямлю.

## Аб прышчэпліваньні

**(прырыхтаваньне галінкаў [адросткаў] і абмазкі).**

Дзічкі, перасаджаныя спасабамі пададзенымі ў папярэдніх нумарох, можна прышчэпліваць. Ня гледзячы на тое, што прышчэпліваць можна нават і дрэвы старыя, стараемся аднак прышчэпліваць дзічкі ў часе якнайхутчэйшым, яшчэ зусім маладыя, бо праз гэта выйгрываем на часе. Можам шчапіць дзічкі, якія маюць ужо гадоў 5—7, але гэта зьяўляецца для нас вельмі недагодным, ба зрэзваем сьцябло блізка ад зямлі і чакаць на яблыкі ад яго мусім так сама доўга, як і ад аднагодняй прышчэпленай дзічкі. Апрача гэтага раны, якія мы ў гэтым выпадку задаём дрэўку большаму ў многа разоў горш будзе залячыць. Затым, дзічкі надаюцца да прышчэпліваньня, калі таўшчыня іх будзе адпаведнай да спосабу прышчэпліваньня, якога маемся ўжыць; зусім хапае, абы дзічкі ў месцы прышчэпліваньня былі таўшчынёй у звычайны алавік (яблыні і ігрушы прышчэпліваюцца найчасьцей пры самай зямле).

Прышчэпліваць у нашым клімаце можна вясной галінкамі (адросткамі), якія зьбіраюцца з дрэў, гатункі якіх хочам мець, увосень або зімой, і пераховываюцца да вясны аж да шчапеньня, або паасобнымі вочкамі (почкамі), якія пры іх поўным росьце здыймаюць з галінаў. Залежна ад гэтага першы спосаб называецца прышчэпліваньнем, другі вачкаваньнем.

Галінкі (адросткі), якімі маюцца прышчэпліваць, мусяць быць адлучаны ад дрэва, якое выдае з сябе найлепшыя фрукты, увосень, пасьля таго як абсыплюцца лісьцьця, або зімой. Лепш аднак абрэзаць галінкі ўвосень, дзеля таго, што зьбіраючы іх на маразох, можна знайсьці з іх многа папсутымі. Галінкі адлучаныя ад дрэва складаюцца ў пучкі і каб не зьмяшаліся гатункі, то пры кожным прывязваць трэба драўляную дошчачку з напісам. Усе гэтыя зьвязаныя пучкі трэба закапаць у цяністым месцы ў зямлю, глыбінёй на $^1/_4$ аршына (закопваць увосень), дзе яны ляжаць у працягу цэлай зімы. Часамі здараецца, што закапаныя пукі аб'ядаюць мышы і дзеля таго, каб ад іх уберагчыся, трэба ўсе пукі абвязваць яшчэ якімі-небудзь калючымі галінкамі (яловымі або сасновымі).

Зімой, месца, дзе закопаны галінкі (адросткі) вельмі карысна паліваць вадой, каб намёрзла даволі вялікая горка лёду, які-б вясной ня скора адтаў і даў магчымасьць закапаным галінкам якнайдаўжэй праляжаць у прамерзлым грунце і не прырасьці, бо ў месцы, дзе зямля скінула з сябе зімовае пакрывала, сонца сваімі праменьнямі награвае грунт, у якім ад цеплаты ў закапаных галінках пачынаюць распушчацца почкі і гэтакія галінкі да прышчэпліваньня ўжо не надаюцца.

Пасьля растаньня лёду, які ляжыць даволі доўга над закапанымі пукамі, трэба іх выкапаць і перанясьці ў месца халоднае і закрытае ад сонца, дзе і трымаць іх аж да прышчэпліваньня (найлепш у лядоўні або ў варыўні).

Галінкі, якія адлучаюцца ад дрэва пад вясну, ня могуць доўга праляжаць і прышчэпліваць імі трэба раньняй вясной. Пры гэтым вельмі важна, каб почкі на галінках, якімі маюцца прышчэпліваць былі менш набракшы, чымся на дзічках, і яшчэ лепш, калі яны зусім „сьпяць“ (не набракшы).

Галінкі, адлучаныя ад дрэваў, ці то старых ці маладых ня ўплываюць на прышлую пладнасьць нова-прышчэпленых дрэўкаў ані на іх ранейшае выдаваньне пладоў.

Апрача дзічак і адросткаў для прышчэпліваньня патрэбна яшчэ добрая абмазка, якая лучыла-б у сабе наступныя якасьці: лёгка прыліпала да дрэва, не распушчалася ад сонца, не абсыпалася і была-б мягкай. Не павінна абмазка таксама хутка засыхаць, бо ад гэтага карабаціца і патрэскаўшы слой абсыпаецца, адсланяючы гэтым самым сьвежа-адрэзаныя месцы дзічак, якія ад дажджу і сонца чарнеюць і могуць загніцца.

Ніжэй падаю некалькі спосабаў, *як прыгатаваць абмазку* (масьць):

1) Бярэцца 125 грам. каніфолі, 62 гр. сасновай жывіцы (якую называюць часамі „белай шавецкай смалой“) і 25 гр. лою. Усё гэта распушчаецца на агні аж да вадзяністасьці і пасьля да гэтага даліваюць, мяшаючы 50 гр. чыстага сьпірту (уліваць сьпірт трэба вельмі асьцярожна, бо ён лёгка запальваецца). Трэба, каб усё гэта дакладна зьмяшалася і пераварылася. Да гэтай мешаніны дадаецца яшчэ 25 грам. вохры ў парашку, якой ужываюць маляры пакояў, ад чаго масьць гэтая набярэ колеру чырванаватага. Масьць гэтую можна пасьля зьліць у якія-небудзь стаўбункі, ў якіх яна і стыне. Гэтак можна яе прыхоўваць у працягу некалькіх гадоў, абы толькі стаўбункі былі шчытна прыкрыты. Калі масьць пасьля доўгага стаяньня зробіцца вельмі густой, то разагрэўшы яе трэба дадаць крыху сьпірту, ад якога масьць пажыдзеець. Найлепш прыхоўваць гэтую масьць у бутэльках закаркаваных, толькі што падчас ужыцьця трэба адбіваць рыла і перакладваць яе ў іншае начыньне. Сьпірту можна прымешваць ня толькі

ачышчанага, але нават і такога, які ўжываюць да паленьня, лепш аднак даваць чысты.

Якасьцяй гэтае масьці, апрача таго, што яна найдзешавейшай, найважнейшае тое, што гоіць вельмі лёгка і скора раны дрэў.

2) На 100 грам. жыдкай смалы кладуць 13 гр. жоўтага воску і 20 гр. сьвежага сьвінога сала. Усё гэта распушчаецца на лёгкім агні ў якім-небудзь начыньні, мяшаючы адначасна гэтую мешаніну лапаткай, каб добра распусьцілася і зьмяшаліся ўсе дадзеныя часткі.

3) Узяць 100 гр. белай смалы, 100 гр. жоўтага воску і 100 гр. густой жоўтай тарпатыны (толькі ня шпікунару) і ўсё гэта распусьціць. Гэтая масьць даволі дарагавата і дзеля таго можна палажыць смалы ў два разы (200 грам.) больш, ад чаго якасьць гэтае абмазкі амаль што не зьмяншаецца.

4) Амэрыканская абмазка: распусьціць 125 грам. жывіцы на агні, дадаць 12—13 гр. валоўяга лою і добра зьмяшаць. Пасьля зьняць з агню, крыху астудзіць і дадаць паўлыжкі ачышчанай тарпатыны і 75—80 гр. сьпірту. Гэта ўсё яшчэ раз заварыць на агні, праз увесь час мяшаючы і пасьля зьліць ў якое-небудзь начыньне.

*Г.*

## Гігіенічна-ратаўнічы аддзел.

### Сутнасьць і рознароднасьць сухотаў.

Паўсюдная назова сухотаў ёсьць народнага паходжаньня, адпавядае яна назову phthisis ад грэцкага слова сохнуць, дзеля гэтага сухоты зноў і ад слова tuberculum завуцца тубэркулёзам — ад гузкоў якія вытварае хвароба асабліва ў лёгкіх ёю захваченых. Справы гэтыя паўстаюць пад уплывам тубэркулёзнай палачкі-бактэрыі выкрытай вучоным Кохам у 1882 годзе, калі мікраскоп быў у поўным ужыцьці, а адначасна і метады баданьняў прынялі адпаведную форму. Першыя зьявішчы гэтай хваробы выходзяць найчасьцей з лёгкіх, часта цягнецца хвароба даўжэйшы час г. зн. хранічна, не выказваючы большага свайго насіленьня, павольна вынішчаючы цэлы арганізм і ўрэшце даводзіць да сьмерці. Насіленьне хваробы можа быць вострым і тады хвароба ў даволі хуткім часе канчаецца сьмерцяй. Пры неадпаведных варунках разьвіцьця палачак хвароба ўстрымліваецца на пэўны карацейшы або даўжэйшы час, можа перайсьці ў укрытую форму або ў выздараўленьне. Калі працэс хваробы ня спыняецца, а пасоўваецца далей, можа ён перакінуцца і на іншыя органы, надаючы ім пэўны абраз тубэркулёзу, які, як і ў лёгкіх, паступова даводзіць да сільнага вынішчэньня зьменнасьці і нарушэньня функцыяў нармальных арганізму і ўрэшце да сьмерці. Органамі на якія перакідаецца палачка сухотаў, найчасьцей будзе косьць, суставы, скура, сьлюзавыя абалонкі жоўлакі (жалёзы) і кармовы праход. Разносіць па арганізьме будзе тут лімфа, куды дастаюцца гэтыя палачкі, якія абдараны нязвычайнай зласьлівасьцяй аднасна гэтых органаў, а так-жа і іншых. Так што няма месца ў арганізме якое было-б не падатным на тубэркулёз. Зласьлівасьць іх выяўляецца ў тым, што знайшоўшы адпаведны грунт палачкі пачынаюць хутка множыцца ў даным месцы, лік іх даходзіць да некалькіх мільёнаў. Вытвар з гэтага арганічнага жыцьця мікраскапічных твораў не зьяўляецца пасыўным дзеля акружаючых тканяў. Палачкі, каб жыць, мусяць прыймаць патрэбныя ім складовыя рэчы, а выдзяляць непатрэбныя. Гэтым яны нарушаюць нармальны абмен матэрыі арганізму і сваімі вытворамі, якія належаць да роду ядаў г. зв. токсынаў шкодзяць акружаючым іх каморкам арганізму, якія могуць быць забітымі праз гэты яд, як шкодны нашаму целу. Ядам, або труцізнай завем кожную рэч, якая ёсьць нам шкоднай і калі не зьяўляецца жывым творам. Пад уплывам гэтага вытвару—яду ткані цела людзкога заміраюць і распадаюдца.

Пры сухотах лёгкіх могуць быць зьнішчаны мі цэлыя лёгкія, і тое, што з кашлем дастаецца да сьплёвінаў і ёсьць палачкі сухотаў.

Сплёваючы дзе ў вагала раскідваем там гэтыя палачкі. Здавалася-б, што на гэтым канец, але не, трэба сказаць, што гэтыя палачкі ня гінуць так лёгка, яны доўгі час могуць жыць, хоць сплёвіны і высахнуць. Жыцьцёвасьць іх настолькі трывалая, што могуць ляжаць гдзесьць там ў пыле некалькі месяцаў, холаду, марозу таксама не баяцца, могуць быць замёрзшымі ў лёдзе, а жыцьцёвасьць іх ня зьменіцца. Што праўда, у такіх варунках ня могуць толькі размнажацца. Пасколькі цяплыня 60° забівае іх у працягу 2-х гадзінаў, дык цяплыня 100° нішчыць іх мамэнтальна, гэтым самым гатаваньне вады ці малака, якое адбываецца пры 100° забівае іх. Уражлівасьць іх адносіцца яшчэ і да соўнечнага сьвятла, праменьні якога забіваюць палачкі ў працягу некалькіх дзён.

Сьцьверджана, што палавіна ўсіх кароваў мае сухотныя палачкі, якія дастаюцца да малака, а з ім пераносяцца на чалавека здаровага асабліва на дзяцей, дзеля гэтага малако трэба перагарваць, каб забіць гэтыя палачкі.

Сухотныя палачкі дастаюцца да арганізму праз удыханьне намі паветра, калі ў гэтым паветры разам з пылам ёсьць гэтыя палачкі, якія, як зусім нябачаныя голым вокам, уносяцца ў паветры, або з капелькамі сьліны, калі кашляе хворая на грудзі асоба. Капелькі гэтыя выкіданыя з кашлем удыхаюцца здаровымі. Калі зраніўшы на целе скуру туды дастаюцца, ці то з пылам, або з сплёвінамі хворай асобы сухотныя палачкі, дык заражаюць. Таксама з ядам могуць яны дастацца да жывата, напрыклад, з загрызенага яблыка, з куска хлеба з малаком, з агрызенага кавалка цукру, ад акурка папяросы і г. д. і могуць заразіць.

Дык, як бачым, можа быць тубэркулёз лёгкіх, тубэркулёз скуры, тубэркулёз касьцей і г. д., залежна ад таго, куды трапяць гэтыя бактэрыі.

Заразьлівасьць на сухоты ёсьць большая, дзе ёсьць хворыя на сухоты, бо большая будзе магчымасьць заразіцца. Часта гэта здараецца ў сем'ях, дзе ўсе хварэюць на сухоты і ўміраюць пераважна толькі ў маладым веку, як кажуць: чаўрэў-чаўрэў, сох-сох і памёр.

Дагледжана ў гэтых людзей зьменшаную адпорнасьць супроць сухотаў яны лягчэй западаюць на хваробу, насіленьне яе большае і вылячэньне труднейшае.

Найменш адпорныя на хваробу зьяўляюцца дзеці, вынішчаныя худыя асобы, таксама схварэўшыя і кепска аджыўляючыяся. Такія асобы

найлягчэй могуць захварэць, бо арганізм іх лёгка падатны на сухоты. Здаровыя, сільныя, добра аджыўляныя, вядучыя нармальнае спакойнае жыцьцё, асабліва калі перасьцерагаюць вымененых у папярэдніх нумарох газэты варункаў, застануцца здаровымі, і хвароба да іх не прыкасьнецца, а хворыя з пачаткамі сухотаў пры адпаведным лячэньні лёгка могуць вылячыцца.

Каб ясна прадставіць чытачом фатальныя вынікі хваробы, даныя ніжэй паказваюць, на які век жыцьця найбольш прыпадае сьмяротнасьці.

На 25.643 чал. места Львова памёршых ад 1901 да 1925 году ад сухотаў у веку:

| | | |
|---|---|---|
| Ад 0 — 1 г. | памёрла 1601 | чал. |
| „ 1 — 5 „ | „ 2956 | „ |
| „ 5 — 10 „ | „ 1450 | „ |
| „ 10 — 15 „ | „ 1044 | „ |
| „ 15 — 20 „ | „ 2024 | „ |
| „ 20 — 30 „ | „ 4430 | „ |
| „ 30 — 40 „ | „ 3775 | „ |
| „ 40 — 50 „ | „ 3290 | „ |
| „ 50 — 60 „ | „ 2784 | „ |
| „ 60 — 70 „ | „ 1612 | „ |
| Вышэй як 70 „ | „ 633 | „ |

*Т. К.*

## Аб трахоме.

Аднэй з паважнейшых вочных хваробаў зьяўляецца *трахома* або эгіпэцкае запаленьне вачэй, папольску званае ягліцай.

Здараецца і распаўсюджваецца найбольш сярод работніцкае і сялянскае масы і там, дзе варункі гігіены перасьцерагаюцца ў меншай меры. Як кожная іншая заразная хвароба, пераносіцца ад хворых на трахому ці праз занячышчаныя рукі, датыкаючыся хворага, ці выціраючыся тым самым рушнікам, якім выціраўся хворы.

Ведама, хворы на трахому ня ўстрымаецца, каб не паціраць хворых вачэй сваімі рукамі, якімі пасьля трымаецца за клямку ад дзьвярэй, вітаецца з іншымі і г. д. і, такім чынам, зусім здаровы чалавек, бяручыся за клямку, за якую трымаўся хворы, выціраючыся заражаным рушнікам, мыючыся ў супольнай судзіне, вітаючыся з хворым на трахому — лёгка можа перанясьці гэтую хваробу на самога сябе, на свае, дагэтуль зусім здаровыя, вочы.

Наколькі паважнай зьяўляецца хвароба, відаць хоць-бы з таго, што Амэрыка ня ўпушчае да сябе хворых на трахому. Хвароба гэтая прыймае хранічны характар, цягнецца цэлымі гадамі, пры залячэньні часта зноў паўтараецца.

Часта хворы на вочы зусім трахомы не падазравае, бо ў пачатку трудна яе адрозьніць ад звычайнага запальнага або катаральнага стану вачэй, і даведваецца толькі аб гэтым ад доктара, які дакладна агледзіць, адвярнуўшы хвораму павекі. Вострыя выпадкі трахомы здараюцца даволі рэдка і адзначаюцца сільным гнаеньнем, выдзяляным з вачэй.

Хвароба праяўляецца нявельмі зазначанай ўражлівасьцяй на сьвятло, сьлязьлівасьцяй і зачырваненьнем вачэй. Час ад часу вочы пачынаюць сьвярбець.

Верхняя века трохі ападае, берагі векаў, згрубеўшыя і пачырванеўшыя. Унутраная старана векаў больш схварэўшая лімфатычная камячкі ў форме барадавак значна павялічаныя, прыпамінаючыя сабой сачавыя зярняты або ікру жабаў, творыцца аксамітна-плюшавы выгляд у форме грудак.

Калі не лячыць вока, дык грудкі гэтыя павялічваюцца, века выхіляецца, расьніцы пачынаюць цёрці вочнае яблыка, века грубее і паўстае блізнаваценьне, сьцягваючае века. Адначасна паўстаець лушчэньне з вытвараючыміся балячкамі.

Стан такі можа давясьці да поўнай сьлепаты. Каб распазнаць хваробу, трэба ўмела вывінуць пальцамі верхняе века. Для лепшага абсьледаваньня гэтага спэцыялістыя паслугоўваюцца яшчэ іншымі спосабамі.

Самае лячэньне праводзіцца сыстэматычным спосабам прадназначанымі дзеля гэтага лячніцамі, якіх у Вільні ёсьць дзьве: адна для дзяўчат пры заразным шпіталі на Зьвярынцы, другая для хлапцоў магістрацкая лячніца для прыходзячых хворых і ў вочнай унівэрсытецкай клініцы на Антокалі, куды трэба і зьвяртацца. Лячэньне вымагае даўжэйшага часу і зьяўляецца неабходным.

Хворыя пры гэтым павінны быць адасобненымі ад здаровых, асабліва ў школах. У сямейным жыцьці зьяўляецца неабходным утрыманьне чыстаты цела, асобнай чыстай адзежы і асобных умывальняў. Прычыны, якія выклікаюць хваробу, да гэтай пары зьяўляюцца няведамымі.

У апошнія часы прадугледжваецца ня сьцьверджанымі яшчэ гэтак званымі ўльтра-мікраскапічнымі заразкамі, якім найбольш аддаюць сваю ўвагу вучоныя бактэрыялёгі.

Заразкаў гэтых ня можна выкрыць нават пад мікраскопам. Прадстаўляюцца яны настолькі малымі, што не затрымоўваюцца, а праходзяць праз сьвечкі Chamberlanda і Berkefelda.

Да гэткіх самых ультра-мікраскапічных твораў, апрача трахомы, залічаюцца яшчэ і заразкі воспы, шаленства і інш. *Т. К.*

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

## З жыцьця Беларускага Студэнскага Саюзу.

У нядзелю 22 студня ў салі Т-ва Беларускае Школы, дзякуючы стараньням Беларускага Студэнскага Саюзу, была зладжана лекцыя са спэктаклем. Лекцыю чытаў студэнт Шыран на тэму „Газавая і бактэрыялёгічная вайна ў сьвятле прошласьці і ў будучыне“, пасьля чаго адыгралі п'ескі: „На вёсцы“ і „Мядзьведзь“. У ігры на сцэне бралі ўдзел З. Міхалевічанка, Э. Залкінд, Ермаковічанка, Амельяновіч, Маскалік і іншыя.

Агулам, вечар трэба лічыць вельмі ўдалым.

29 студня ў Беларускім Студэнскім Саюзе чытаў лекцыю грам. Я. Мамонька на тэму „Разьвіцьцё беларускага руху ад 1917 г. да апошняга часу“.

2 лютага ў Беларускім Студэнскім Саюзе вул. сьв. Ганны 2, прачытае лекцыю грам. Косьцевіч на тэму „Усебеларускі зьезд 1917 г.“ Пасьля лекцыі адбудуцца скокі.

## Былы сэнатар Уласаў не кандыдуе.

„Słowo“ зьмяшчае пісьмо сэн. Уласава, у якім б. сэнатар заяўляе, што весткі аб ягонай кандыдатуры, а таксама быццам ён творыць асобны выбарчы сьпісак, — ня згодны з праўдай.

### Арышт б. пасла Шапеля.

Арыштованы і перавезены на Лукішкі б. пасол Шапель. Арышт выкліканы закончаньнем судовага сьледзтва. Б. пасол Шапель вінавацінца ў падтрымліваньні сувязі з Саветамі ў зьвязку з яго прабываньнем у „Незалежнай Партыі Хлопскай".

## Юрыдычныя парады.

### Адсрочка ад ваеннае службы.

Ад 15 лютага можна падаваць просьбы аб адсрочцы ад ваеннае службы прызыўным, якія радзіліся ў 1907, 1906 і 1905 гадох і зьяўляюцца адзінымі карміцельцамі сям'і.

Паводле закону аб ваеннай службе за адзіных карміцеляў сям'і могуць быць прызнаны: 1) сын няздольных да працы бацькоў, удавы ці ўдаўца і няшлюбны сын няздольнай да працы маткі,

2) родны брат, а таксама адзінаутробны (аднае маці) асірацелых і няздольных да працы шлюбных і няшлюбных братоў і сёстраў,

3) унук няздольных да працы дзядоў, або дзеда ці бабкі ў простай лініі, калі гэтыя асобы ня маюць здольных да працы дзяцей.

Просьбы аб адсрочцы трэба падаваць у старасства і да просьбы трэба далучыць: 1) выпіс з сьпіскаў „ksiąg ludności stałej", у якім павінна быць абазначана ўся сям'я прызыўнога з паказаньнем году нараджэньня, а таксама году сьмерці бацькі ці маткі. У выпадку, калі прызыўны ўжо меў адсрочку, дык трэба далучыць копію адсрочкі.

У выпадку немагчымасьці прадстаўленьня выпісу з кнігаў „ludności stałej" (калі яны спаленыя ці вывезены ў Расею), трэба далучыць мэтрыкі ўсяе сям'і.

Просьба павінна быць пасьведчана старшынёю і паліцыяю. Гэрбавых марак прыкладаць ня трэба.

## Апошнія навіны.

**С. С. С. Р.** Атрыманы весткі, быццам у Маскве пачаліся беспарадкі. Весткі гэтыя дасюль яшчэ не праверaны. Аднак зусім магчыма, што раней ці пазьней, у зьвязку з апошнімі падзеямі з опозыцыяй, зьмены ў Расеі будуць.

**Літва.** У адказ на польскую ноту, літоўскі міністар заграничных справаў Вальдэмарас пераслаў ноту польскаму міністру заграничных справаў. У сваёй ноце Вальдэмарас заяўляе, што пачатак польска-літоўскіх перагавораў залежыць ад таго, якія справы будуць абгаварвацца на конфэрэнцыі. Мін. Вальдэмарас заяўляе, што перагаворы, якія-б яны ні былі, мусяць закрануць справу прыналежнасьці Вільні. Адначасна Літва дамагаецца зваротy адшкадаваньняў за выступленьне гэн. Жэлігоўскага.

**Нямеччына** Адбыліся нямецка-літоўскія перагаворы. Пададзены афіцыяльны камунікат аб рэзультатах конфэрэнцыі, між іншым асягнута паразуменьне ў наступных справах:

1) Між Нямеччынай і Літвой заключаны дагавор аб згодзе.

2) Падпісаны дагавор аб рыбалоўстве, воднай гаспадарцы, аб дапамогах для б. вайсковых, а так-жа паграничная згода.

3) Абгарвалася і ў многім асягнута згода ў справе гандлёвага дагавору.

4) Асягнута паразуменьне ў справе Клайпэды.

**Англія. Выбары ў англійскі парлямэнт.** Газэты падаюць, што англійскі ўрад ня думае раней распусьціць парлямэнт. Выбары адбудуцца ў маі або ў чэрвені 1928 г.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

п. Дзісна — **Р. Яйсон.** Газэта высылаецца, дамагайцеся на пошце.

п. Гальшаны, в. Карабы — **Зьмітра Кошыц.** Грошы 2 зал. атрымалі, газэту з 1.II.28 высылаем.

п. Астраў каля Баранавіч, в. Запольле — **Ян Асшык.** Грошы 1 зал. атрымалі, газэту ад 1.II.28 высылаем.

п. Азярніца — **Чак Габрусь.** Грошы 1 зал. атрымалі, газэту ад 15.I.28 высылаем, дамагайцеся на пошце.

п. Войстам, в. Овранзаво — **Буяк Міхась.** Газэта высылаецца ад 1.XII.27, дамагайцеся на пошце.





Адказны Рэдактар і выдавец **Ф. Умястоўскі.** Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3